

Жыве Беларусь!

# Народная Газета

Орган Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

№185 (698) 23 верасня 1993 г. Чацвер. | Выдаецца з кастрычніка 1990 года на беларускай і рускай мовах. | Тыраж 500400 экз. | Кошт у розніцу — 15 руб.


## ФАКС

### Вкратце

**Вчера состоялся разговор по телефону премьер-министра Республики Беларусь Вячеслава Кебича с руководителем российского правительства Виктором Черномырдиным.**

Вячеслав Кебич сообщил, что белорусский Кабинет министров в одностороннем порядке принял решение снять таможенные барьеры на товары, которые отправляются в Россию.

❑

**22 сентября руководитель белорусского правительства Вячеслав Кебич встретился с участниками минского коммунистического подполья в годы Великой Отечественной войны, Героями Советского Союза Еленой Мазаник и Марией Осиповой, которые ровно полсотни лет назад привели в исполнение приговор палачу белорусского народа генеральному комиссару В.Кубэ.**

❑

**Госкомстат Республики Беларусь сообщает, что среднемесячная заработная плата рабочих и служащих в январе—августе 1993 года составила 30 644 рубля и возросла по сравнению с аналогичным периодом прошлого года в 9,9 раза.**

В августе она достигла 58 041 рубля (в июле была 44 234 рубля).

❑

**Третья по счету республиканская выставка белорусской книги открылась в Минске.**

На ней представлена литература, выпущенная за последний год всеми государственными издательствами и некоторыми коммерческими структурами.

❑

**У населения Беларуси на сегодняшний день накоплено 507 миллиардов рублей.**

На счетах предприятий и населения находится также около 280 миллионов долларов США.

❑

**Известная художница белорусского зарубежья Тамара Стаганович передала постоянному представителю Беларуси при ООН Геннадию Буравкину свой подарок — триптих "И весны не остановить, не удержать".**

❑

**Командующий пограничными войсками России заявил решительный протест в связи с нападением в Тбилиси на автомобили управления Северо-Кавказского пограничного округа.**

В результате бандитских акций погиб военнослужащий срочной службы, ранены офицер и рядовой пограничник, еще два офицера захвачены в заложники.

❑

**Трое бывших советских военнослужащих отказались вернуться на родину из плена в Афганистане.**

Все они отказались возвратиться "по религиозным мотивам", хотя не исключили возможности встречи со своими родными, "когда для этого сложатся необходимые условия".

❑

**В связи с событиями, происходящими в Грузии, президент Украины Л.Кравчук направил телеграмму президенту России Б.Ельцину с призывом применить все возможные меры по задействованию механизма соглашения с целью прекращения кровопролития и братоубийства.**

❑

**Джон (Иван) Демьянюк, долгие годы обвинявшийся в совершении массовых расправ над военнопленными в нацистском концлагере Треблинка, был вчера освобожден из израильской тюрьмы и вылетел в США.**

Демьянюк, которого многие отождествляли с "Иваном Грозным" — охранником и палачом Треблинки, был полностью оправдан израильским судом после разбирательства, длившегося несколько лет.




Рисунок Олега ПОПОВА.

### Все выше, и выше, и выше...

**Вчерашний курс валют банка "Комплекс" в Минске**

| Наименование валюты | Скупка | Продажа |
|---|---|---|
| Доллар США | 2305 | 2400 |
| Немецкая марка | 1395 | 1455 |
| Английский фунт | 3270 | 3466 |
| Финская марка | 372 | 394 |
| Французский франк | 378 | 400 |

**За минувшую неделю доллар подорожал на 350 белорусских рублей.**

По мнению экспертов, такая же тенденция его роста, по-видимому, сохранится и в ближайшие дни.

Вчера на Московской межбанковской валютной бирже доллар шел за 1102 рубля, на 66 дороже, чем накануне.

**Антон ЧЕКОВ.**

### Топор и пряник Хасбулатова

**Если победит Хасбулатов, Ельцину грозит смертная казнь.**

Об этом стало известно вчера утром, когда с подачи коммуниста Бабурина депутаты срочно приняли поправки к уголовному законодательству. Поправки предусматривают не только большие тюремные сроки, но и смертную казнь "за участие в насильственном изменении конституционного строя". Российские большевики оказались верны советской диктатуре: запугать простых людей и своих противников перспективой военно-полевых "троек".

Зато другим документом Хасбулатов выдал "пряник": всем своим сторонникам, явившимся к зданию парламента с кумачовыми флагами, предписано сохранить средний заработок за все митинговые дни. Так сказать, плата за патриотизм.

**Леонид ФАДЕЕВ.**

### Киднэппинг на Беларуси?

**Три тысячи долларов передала директор коммерческой фирмы Дзержинска вымогателям, похитившим ее сына, девятиклассника гимназии. Мальчика пообещали возвратить через три дня.**

Мотивы похищения другого ребенка — трехлетней Леночки — пока не установлены. Отец потерял девочку в кафе "Дорожник" на вокзале в Молодечно. Нашел ее дежурный наряд милиции, прочесывавший дизель-поезд Минск — Вильнюс, у чужого дяди — жителя Вильнюса.

**Павел МОРОЗ.**

### Спорт-экспресс

30 сентября баскетболистки минского "Горизонта" проведут дома международный матч в рамках розыгрыша кубка Ронкетти. Они встретятся с итальянским клубом "Венценция".

❑

Гарри Каспаров увеличил свое преимущество в счете в матче "Чемпионат мира "Таймс". Выиграв на 36-м ходу белыми фигурами очередную, седьмую партию у англичанина Найджела Шорта, он теперь лидирует — 5,5:1,5 очка.

### Такой далекий и такой близкий Китай

**В выставочном комплексе "Минскэкспо" открылась выставка китайских товаров народного потребления.**

Такое впечатление, что посетителей больше, чем на знаменитом Комаровском рынке в белорусской столице.

Интерес к выставке понятен. Здесь представлены более тысячи экспонатов — продукция электронной, химической, текстильной промышленности Китая. Особенно впечатляют керамические изделия — экзотические китайские сюжеты на вазах и блюдах.

Выставка, разумеется, проводится не ради только "себя показать". Прямо там заключаются деловые сделки. Ведется и распродажа экспонатов.

**Виктория БЕРЕЗОВСКАЯ.**



Выпуск подготовлен по сообщениям корреспондентов "Народной газеты", агентств ИТАР—ТАСС, Белинформ, Интерфакс, БелаПАН и РИД.

*Мы жывём на адной планеце*



## Жаданы госць

**У Беларусі добра вядомая дабрачынная дзейнасць гуманітарнага фонду нямецкай зямлі Паўночны Рэйн-Вестфалія і яго кіраўніка пані Юты Шноар. Яна не першы раз прыязджае ў нашу рэспубліку са спецыяльным абсталяваннем і медыкаментамі для арганізацыі лячэння дзяцей у раёнах, якія пацярпелі ад радыеактыўнага забруджвання. Стараннямі фонду аказана істотная падтрымка дзіцячаму хірургічнаму цэнтру пры 1-й клінічнай бальніцы Мінска, перададзена на мільёны марак дэфіцытных лякарстваў і медыкаментаў. Хутка тут пачнецца таксама будаўніцтва дыягнастычнага цэнтра з наступнай установкай сучаснай апаратуры коштам каля двух мільёнаў марак.**

21 верасня пані Шноар перадала Станіславу Шушкевічу дароўную грамату з пералікам гуманітарнага абсталявання і медыкаментаў. Ля будынка Вярхоўнага Савета адбыўся дэманстрацыйны паказ спецаўтамабіляў медыцынскай дапамогі, прызначаных для беларускіх медыкаў. Станіслаў Шушкевіч выказаў сардэчную падзяку нямецкай госці і запэўніў, што ўвесь каштоўны груз і аўтамабілі трапяць у рукі выключна тых, хто мае вострую патрэбу ў гуманітарнай дапамозе. Ён таксама запэўніў, што за два гады работы паміж беларускім і нямецкім бакамі паявілася поўнае давер'е адзін да аднаго. Гэта прыклад для дзелавых колаў рэспублікі і ФРГ у сферы супрацоўніцтва на ўзаемавыгаднай аснове.

**Белінфарм.**

### *Вярыцельныя граматы ўручаны*

21 верасня Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Ірландыі ў Рэспубліцы Беларусь Патрык Макэйб уручыў вярыцельныя граматы Старшыні Вярхоўнага Савета рэспублікі Станіславу Шушкевічу.

Пасля ўручэння вярыцельных грамат і абмену прамовамі паміж Станіславам Шушкевічам і Патрыкам Макэйбам адбылася гутарка, у якой прыняў удзел першы намеснік міністра замежных спраў Беларусі Георгій Таразевіч.



**Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Ірландыі ў Рэспубліцы Беларусь Патрык Макэйб**

Нарадзіўся ў 1945 годзе ў горадзе Дубліне. Адукацыю атрымаў у Дублінскім універсітэце.

На дыпламатычнай службе з 1965 года. Працаваў у цэнтральным апараце МЗС Ірландыі і прадстаўніцтвах краіны за мяжой. З'яўляецца членам дэлегацыі Ірландыі на канферэнцыі па бяз'ядзернасці і супрацоўніцтву ў Еўропе.

У 1986—1989 гг. — пасол Ірландыі ў Іраку і па сумяшчальніцтву на Кіпры, у Іарданіі, Кувейце і Ліване. З 1990 года ўзначаліў дыпламатычнае прадстаўніцтва ў Маскве.

Жанаты, мае дваіх дзяцей.

**Аддзел інфармацыі МЗС РБ — Белінфарм.**

*З першых вуснаў*

## Станіслаў ШУШКЕВІЧ: Сесію трэба праводзіць як мага раней...

"Маё цвёрдае перакананне — без рашучых дзеянняў улады Расіі яе народу будзе горш, — заявіў 22 верасня Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Станіслаў Шушкевіч. — Таму я гарачы прыхільнік мер, праведзеных прэзідэнтам Ельцыным. Больш таго, лічу, што ён некалькі запазніўся з іх прыняццем. Вынікі рэферэндуму давалі прэзідэнту падставу зрабіць гэта значна раней".

На думку Станіслава Шушкевіча, з-за няўмення адной галіны ўлады ўзгадніць свае дзеянні з іншымі галінамі ўлады народ Расіі аказаўся ў цяжкім становішчы. А выбары праз два з палавінай месяцы і ёсць праяўленне дэмакратыі, таму што народу Расіі даецца магчымасць выказаць свой пункт гледжання. Ні Ельцын, ні Руцкой, ні хто-небудзь іншы не вырашыць за народ. Менавіта грамадзяне Расіі ў снежні вызначаць, каму яны давяраюць. Вызначаць праз выбары, гэта значыць самым дэмакратычным шляхам.

Ацэньваючы падзеі ў "Белым доме", у тым ліку назначэнне Руцкога, спробу правесці з'езд народных дэпутатаў, спікер адзначыў: гэта — спектакль. І затым дадаў: "Рэжысёр у яго не такой высокай кваліфікацыі, каб гэты спектакль быў добра пастаўлены".

Старшыня Вярхоўнага Савета заявіў, што падзеі ў Расіі не ўносяць ніякіх карэктыў у яго бліжэйшыя планы. 24 верасня ён мае намер плённа папрацаваць на сустрэчы кіраўнікоў дзяржаў і ўрадаў СНД.

Я запытаўся ў кіраўніка парламента, што ён думае аб звароце прадстаўнікоў некалькіх парламенцкіх фракцый, некаторых грамадскіх арганізацый, у якім заклікаецца на месцы цяперашняга СНД стварыць канфедэрацыю. Аўтары звароту лічаць, што першы крок у гэтым напрамку павінны зрабіць Беларусь і Расія.

Наконт гэтага Станіслаў Шушкевіч сказаў:

— Сярод тых, хто падпісаў гэты зварот, вельмі шмат людзей з надзвычай добрай біяграфіяй, староўчых людзей. У іх прыстойнасці, сумленнасці я не сумняваюся. Але мне здаецца, што іх менталітэт, кваліфікацыя, папярэдняя гісторыя не дазваляюць ім убачыць і іншыя добрыя шляхі інтэграцыі паміж Беларуссю і Расіяй, Беларуссю і іншымі краінамі СНД. На жаль, гэтыя людзі бачаць толькі адзін механізм, а існуе шмат схем, форм, шляхоў інтэграцыі. Ёсць цэлая навука — паліталогія, і трэба вывучаць яе, а не карыстацца прымітыўнымі схемамі, якія ўжо страцілі сваю жыццяздольнасць. У нас у Беларусі няма людзей, якія б дрэнна адносіліся да Расіі, якія не хацелі б быць з ёй у цеснай інтэграцыі. Але не трэба для гэтага прыносіць у ахвяру наш суверэнітэт, нашу дзяржаўнасць. Не сакрэт, што дэпутаты, якія падпісалі зварот, перад гэтым актыўна кантактавалі з тымі лідэрамі Расіі, якія, на маю думку, ужо адыходзяць у мінулае.

Станіслаў Шушкевіч паведаміў, што 21 верасня прайшла нарада членаў Прэзідыума Вярхоўнага Савета. На ёй было вырашана правесці пасяджэнне Прэзідыума 29 верасня і вызначыць тэрміны правядзення сесіі Вярхоўнага Савета. "Я лічу, што сесію трэба праводзіць як мага раней. Гэта мая асабістая думка. Як вырашыць Прэзідыум, мы даведаемся ў сераду", — сказаў кіраўнік парламента.

**Уладзімір ГЛОД, Белінфарм.**

## Следства ў Гродне: знойдзена гільза, злачынцаў шукаюць

**У Гродне разгортваецца комплекс экстранных мер, прымаемых праваахоўнымі і іншымі органамі па раскрыццю забойства народнага дэпутата Рэспублікі Беларусь, старшыні Гродзенскага абласнога Савета народных дэпутатаў Дзмітрыя Канстанцінавіча Арцымені.**

Як вынікае з апошняй інфармацыі МУС Беларусі, актыўна працуе аператыўна-следчая група, штаб якой узначалілі начальнік УУС Гродзенскага аблвыканкама генерал-маёр міліцыі Фёдар Гудзей, начальнік абласнога ўпраўлення КДБ Леанід Сцепаненка і пракурор Гродзенскай вобласці Леанід Цярэшчанка. Да аперацыі падключаны супрацоўнікі падраздзяленняў па барацьбе з арганізаванай і эканамічнай злачыннасцю.

Расследаванне вядзецца адразу па некалькіх версіях. На месцы злачынства знойдзена гільза, якая, паводле папярэдніх даных экспертаў, супадае з куляй, выпушчанай з пісталета замежнай вытворчасці, што паразіла Дзмітрыя Канстанцінавіча Арцыменю.

**Белінфарм.**

*Вясковыя клопаты*

## Дзякуй Богу за дапамогу!

Восень ужо ўсміхаецца беларусам "бабіным летам", а гэта значыць, што можна кінуць вокам на тыя харчы, якія мы назапасілі сабе і жывёле.

**Збожжа.** На поўначы рэспублікі зараз дажынаюцца-абмалочваюцца апошнія гектары. На кожнага жыхара, па папярэдніх разліках, прыйдзецца па 800 кілаграмаў збожжа. Дзяржаве яго ўжо прададзены 1 мільён 600 тысяч тон.

**Бульба.** Выкапана на трэці ўсіх плошчаў, ураджайнасць — больш 160 цэнтнераў з гектара. Вяскоўцам "другі хлеб" дапамагаюць збіраць 87.000 гарадскіх памочнікаў, з іх 70 тысяч — студэнты. З-за надвор'я тэмпы ўборкі марудней за мінулагоднія.

**Цукровыя буракі.** Год на іх вельмі ўраджайны, яны проста "рвуць" зямлю. Калі ўдасца ўсё сабраць і зберагчы, то па 16—17 кілаграмаў цукру на кожнага беларусы будуць мець са сваёй сыравіны.

**Лён.** Яго засталося церабіць яшчэ шмат — каля 40 працэнтаў. Работы тут многа, і цяжкай.

**Гародніна.** Чакаецца, што аграрны гектар яе на кожнага жыхара "выдасць" па 80 кілаграмаў.

**Садавіна.** Ураджай яе добры, і яблыкаў, як мяркуецца, будзе па 60 кілаграмаў на кожнага.

На беларускае раслінаводства сёлета, словам, жаліцца грэх — яно спрацавала добра. І гэта яшчэ раз падкрэсліў намеснік галоўнага ўпраўлення раслінаводства Мінсельгасхарча рэспублікі Вячаслаў Герасімовіч. А вось ці дойдзе ўсё, што вырасла, да нашых сталоў і ратоў — залежыць не толькі ад безсалярна-бензінавых сялян...

**Павел СТАСЕВІЧ.**

*Дзяржкамстат паведамляе...*

### Аб сярэднямесячнай заработнай плаце рабочых і служачых

Дзяржкамстат Рэспублікі Беларусь паведамляе, што сярэднямесячная заработная плата рабочых і служачых у студзені—жніўні 1993 года склала 30644 рублі і ўзрасла ў параўнанні з аналагічным перыядам мінулага года ў 9,9 раза. У жніўні яна дасягнула 58041 рубля (у ліпені была 44234 рублі).

**Дзяржаўны камітэт Рэспублікі Беларусь па статыстыцы і аналізу.**

*Колонка Павла Якубовича*

## Да здравствует разум!

Минчане и гости столицы любят остановиться возле одной достопримечательности бывшего Ленинского, а ныне проспекта Скорины — на нашем доморощенном Монпарнасе по утрам вдохновенно работает художник. Уткнувшись в довольно-таки тусклую стену магазина "Художественный салон", он увлеченно малюет на холсте разноцветные маринистские пейзажи. На глазах добродушно посмеивающейся публики из-под бойкой кисти вылетают аквамариновые волны, нежные облака и горные вершины. Меня тоже забавляет такой изумительный художественный метод: глядеть в стенку, а выдумывать бескрайние просторы. Но разве не перекликается этот метод с образом мысли некоторых современных политиков, претендующих на роль витий и вождей? Конечно, кому не хочется, чтобы жизнь вокруг стала прекрасной и удивительной, но для этого, очевидно, нужно знать не понаслышке, как утомленное море нежно прощается с солнцем и как в натуре выглядят экзотические золотые пляжи. Звать население за собой, не зная и не представляя дороги, художники, конечно, могут.

Политики в этом случае совершают преступление!

Вновь извлек из шкафа "Спидолу" и сквозь треск коротких волн настраиваюсь на зарубежные станции. Весь мир опять с интересом и тревогой пытается понять, что же происходит в Москве, чем закончится очередное смутное время?

Мне, из Минска, пока понятно следующее — бесконечно долго так продолжаться не могло, и если Хасбулатов стал публично, чуть ли не матом, крыть президента, то нужно было ожидать чего-то подобного. Роспуска парламента, в частности, который плюнул на все правила приличия (взять хотя бы голосование — святая святых парламентаризма! — а там один ходит по залу и голосует за десятерых где-то гуляющих коллег), и перерыва в работе Конституционного суда, который чересчур увлекся политикой. Так и случилось! Что мне не слишком понравилось в действиях президентской стороны, так это готовность прибегать к приемам, которые джентльменскими никак не назовешь. Характеризуя хамскую выходку Хасбулатова, пресс-секретарь Костиков не нашел ничего лучше, как упрекнуть Руслана Имрановича в "инородстве", "тонко" заметив, что не русским, дескать, нечего делать в Кремле. Такая фразеология совершенно естественна для черносотенцев типа Васильева, но омерзительна в устах демократов. Впрочем, это частности — главное, конечно, в другом.

Как будут развиваться дальше события в Москве?

Ожидать "ярости" народных масс, по-моему, нет оснований: массам до чертиков надоели все — начиная от Руцкого и кончая Жириновским, массы растратили энергию в битве за снискание насущного хлеба, поэтому вряд ли "руководитель обороны" "Белого дома" генерал Ачалов прославится на баррикадах, да и новый "президент" Руцкой не станет ни Мининым, ни Пожарским. В провинции же вообще больше думают о картошке... Но среди многих вариантов развития событий есть и такой — известный своей безумной отвагой Анпилов может погнать хоть и не значительные, но весьма решительно настроенные толпы куда-нибудь в Останкино либо на Старую площадь. Хорошо, если у властей хватит ума не чинить анпиловцам препятствий и оставить их наедине с собственной удалью. Тогда, побегав и покричав, они разойдутся. Если же в дело вступит ОМОН и прольется кровь, события могут принять самый драматический и неописуемый характер. Ясно, что Константинов, Стерлигов и другие сами, как всегда, будут "наступать" в третьем эшелоне, но плодами неразумных действий властей они воспользуются сполна. Вряд ли вмешается армия — подполковник Терехов грозен в основном на трибунах, а Макашов и его замполит Тарасов, если и способны кого-то поставить "под ружье", то не больше сотни бывших штыков из числа пенсионеров. Госбезопасность, хотя и полюбила Баранникова, но по многолетней традиции будет лишь фотографировать и запоминать. На всякий случай. Барометр событий — исполинская мощь органов и соединений МВД, прежде всего ОМСДОН — отдельный мотострелковой дивизии особого назначения, которую не зря проинспектировал накануне подписания указа президент Ельцин. Хочется надеяться, впрочем, что до введения ее основных спецчастей из Реутова в Москву дело не дойдет.

Сам по себе, конечно же, указ президента образцом "конституционности" не назовешь. Поэтому приходится верить ему на слово, что шаг этот продиктован простым и честным соображением — судьба российской государственности важнее судьбы народных депутатов, избранных в "одной", коммунистической, России и никак не желающих понять, что мертвых с погоста не носят. Так что воинственные призывы, доносящиеся из "Белого дома", больше напоминают отчаянные крики утопающих, нежели грозные команды, которые кто-то готов принять к исполнению. Понимая всю правовую деликатность ельцинского указа, тем не менее его поддержали такие щепетильные люди, как руководители западных демократий, и, что особенно многозначительно, — Назарбаев, которого даже самый большой доброжелатель не назовет "недругом" Хасбулатова. Внушительно выглядит позиция правительства, усиленная возвращением доказавшего прокуратуре личную порядочность Шумейко. Кстати, о прокуратуре. Интересно, как поведет себя Степанков, проявивший себя изумительным специалистом по части "тушинских перелетов" от собственноручного заковывания в браслеты Крючкова до прилюдных нападок на президента. Вообще-то, если бы все происходящее было не так серьезно, то поводов посмеяться хоть отбавляй. Два года назад Ачалов, например, был главным пугалом для Хасбулатова, а сегодня Хасбулатов шлет приветствие членам ГКЧП, которые раньше готовы были сделать из него шашлык, а сегодня солидно уверяют, что Руслан Имранович есть государственный муж масштаба ну никак не меньше покойного Сталина. Под шумок встрепенулись национал-подхалимы из "автономий", готовые еще вчера лечь под поезд за "единую и неделимую", а сегодня призывающие своих сограждан вспомнить о ратной славе предков, гарцевавших в туменах хана Батыя. А жизнь меж тем от С.-Петербурга до Находки идет сама по себе и население продолжает меланхолично сравнивать обстановку в доме Марии из одноименного телесериала со своей и надеяться на изменения к лучшему. Ведь столько лет обещают, может, когда-нибудь и выполнят...

Да, богата российская жизнь парадоксами и некоторые из них выглядят просто зловеще. Жаль, что этот императив так легко выпускают из виду те политические деятели Беларуси, которые уподобляются романтическим чеховским трем сестрам с утра до вечера восклицающим: "В Москву, в Москву!"...

Заканчиваю этот материал в два часа по полудни. Завтра мы будем знать, конечно, гораздо больше. Дай Бог, чтобы новости были хорошими и верх взял разум. Кровь-то уже была...

